№ 52 (1117)

Серада, 21 сакавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 80 руб.,
у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**





Фарс

## "Улада згвалціла выбаршчыкаў"

*На мінулым тыдні па Беларусі, а дакладней у Мінску, Брэсце, Баранавічах, Барысаве і іншых гарадах "пракаціліся" давыбары ў Палату прадстаўнікоў. Нядаўна заснаваная арганізацыя па падрыхтоўцы назіральнікаў "Незалежны погляд" сваімі сродкамі арганізавала незалежнае назіранне за выбарамі. Як было даведзена да журналістаў на спецыяльнай прэс-канферэнцыі, падчас галасавання было дапушчана шмат парушэнняў выбарчага заканадаўства і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.*

Сведчаць удзельнікі прэс-канферэнцыі.

**Алесь БЯЛЯЦКІ, каардынатар "Незалежнага погляду":**

"Такіх памераў фальсіфікацый, такіх нахабных, такіх бесцырымонных паводзін выканаўчых улад мы яшчэ не бачылі. Гэтыя фальсіфікацыі, безумоўна, не паспрыяюць уладам дзеля таго, каб умацаваць сваю рэпутацыю, падкрэсліць свой аўтарытэт.

Народ у нас фактычна быў згвалтаваны 18 сакавіка. Улада згвалціла нашых выбаршчыкаў, і няхай Ярмошынай будзе сорамна прызнаваць вынікі такіх "выбараў". Яны ціснуць на безабаронных людзей, прымушаюць тых, што жывуць у інтэрнатах, якія трымаюцца за працу рукамі і нагамі. Я думаю, што людзі гэта запомняць, і ў рэшце рэшт прыйдзе час, калі яны той жа Ярмошынай скажуць: "Сорамна так рабіць".

Мы хочам пераканаць улады і ўсіх людзей ужо зараз, што наша арганізацыя будзе рупна фіксаваць усе парушэнні, якія будуць адбывацца на прэзідэнцкіх выбарах! І мы давядзем праўдзівыя вынікі галасавання да грамадскасці, што б ні напісала і што б ні сказала наша Цэнтральная выбарчая камісія".

**Валянцін СТЭФАНОВІЧ, юрыст Праваабарончага цэнтра "Вясна":**

"Мы назіралі дзве тэндэнцыі парушэнняў выбарчага заканадаўства падчас правядзення паўторных выбараў. Па-першае, гэта зніжэнне колькасці зарэгістраваных выбаршчыкаў. Так, на некаторых выбарчых участках Мінска і Баранавіч былі зафіксаваны наступныя факты: па выбарчай акрузе №5 г.Баранавічы скарачэнне колькасці выбаршчыкаў склала 5788 чалавек; на выбарчых участках Калінoўскай акругі г.Мінска скарачэнне выбаршчыкаў складала ад 20 да 40 працэнтаў (!!!); на ўчастку №11 г.Барысава ў кастрычніку 2000 г. было зарэгістравана 1600 чалавек, зараз засталося 1062 і г.д. Другі тып парушэння — актыўнае выкарыстанне адміністратыўнага рэсурсу дзеля забеспячэння яўкі выбаршчыкаў. Таксама мы мелі шмат цяжкасцей з рэгістрацыяй незалежных назіральнікаў на выбарчых участках, у многіх выпадках ім не прадстаўлялі інфармацыю".

**Іна АПАНАСЕНКА, каардынатар па Брэсцкай вобласці:**

"Губернатар Брэсцкай вобласці Далгалёў часта выступаў па радыё і тэлебачанні і актыўна агітаваў за кандыдатаў, угодных кіраўніцтву, — за Ягорава і Качан. У дзень галасавання, 18 сакавіка, цэнтральныя выбарчыя камісіі былі перанесены ў будынкі раённых выканкамаў. Памяшканні, дзе размяшчаліся акружныя камісіі, не былі абсталяваны належным чынам, у іх сядзелі працаўнікі райвыканкамаў, якія прымалі даныя аб выніках галасавання. Назіральнікі ў гэтыя памяшканні не дапускаліся.

З-за таго, што спісачны склад выбаршчыкаў быў штучна зменшаны, згодна з выканкамаўскай статыстыкай, па ўсіх акругах Брэсцкай вобласці прагаласавала 105 працэнтаў ад спісаў выбаршчыкаў. Нонсенс!

**Сяргей ГОЎША, каардынатар па г.Баранавічы:**

"Я лічу, што 18 сакавіка на Беларусі было здзейснена злачынства. Парушаны артыкул 5 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі, дзе сказана, што кожны чалавек сам мае права вызначаць, галасаваць яму ці не. Я даўно працую на выбарах і мушу сказаць, што такога ўціску з боку ўлад я ніколі не заўважаў. Калі ласка, прыклады. Згодна з данымі нашага цэнтра, выбары ў Баранавічах адбыліся ўжо ўвечары 17 сакавіка: у выбарчай акрузе №4 прагаласавала 56 працэнтаў, у акрузе №5 — 53 працэнты. Рабочых большасці прадпрыемстваў прымушалі сілай ісці галасаваць, больш таго, кожны выбаршчык, які прагаласаваў на ўчастку, павінен быў прынесці на сваё прадпрыемства паперку з яго асабістым нумарам у спісе выбаршчыкаў.

Кіраўнік трэста №25 на сходзе агітаваў супрацоўнікаў прагаласаваць датэрмінова і прагаласаваць за прыхільнікаў Лукашэнкі. Прадстаўнік гарадской бальніцы прыходзіў на выбарчы ўчастак, дзе ўдакладняў спісы прагаласаваўшых".

**Зміцер БАРОДКА, каардынатар па г.Барысаў:**

"Нашы цяжкасці пачаліся з этапу рэгістрацыі назіральнікаў — іх адмаўляліся рэгістраваць па любых выдуманых прычынах. Дырэктарскі корпус быў папярэджаны, што калі яны не арганізуюць гэтыя выбары належным чынам, дык яны пазбавяцца сваіх пасад. Напрыклад, на ўчастку №35, калі на яго прыходзілі рабочыя з прадпрыемства "Мелькамбінат", прасілі даць паперу, што яны ўжо прагаласавалі, — каб зрабіць справаздачу перад начальствам. Ёсць факты пагрозы высялення з інтэрнатаў, звальнення з працы тых, хто не прагаласуе. Быў такі выпадак, што на 31-м участку спецыяльныя агітацыйныя групы хадзілі разам з участковым міліцыянерам і "ласкава" запрашалі прагаласаваць. Вы адмовіце міліцыянеру, калі ён вас папросіць прагаласаваць?"

**Падрыхтаваў Алесь СІЛІЧ.**

Крик души

## Я, как и другие рабы...

Здравствуйте, уважаемая редакция газеты "Народная воля"!

Пишет Вам обыкновенный дворник из Бреста. Спасибо Вам за Ваш героический труд в условиях смертельной опасности со стороны режима личной власти. Вынудило меня написать следующее обстоятельство.

До этого я в теории представлял, что такое административный ресурс. Так вот, на этих так называемых повторных выборах ощутил это на своем горбу. Под угрозой увольнения с работы всех гонят на выборы в "палатку" Лукашенко. При этом, я так думаю, по участию трудящихся в выборах будет оцениваться работа руководителей всех уровней, их соответствие занимаемой должности. Даже в застойные времена так нагло не делали, маскируя все идеологическими причинами. Из моих разговоров с другими работягами я услышал, что это делается по всему Бресту и области. Да ведь это насилие над всеми правами человека! Но, как и другие рабы (а их большинство), я вынужден идти и демонстрировать свою активность и поддержку подобранных властями депутатов "карманного" парламента. (А заставляли голосовать уже со вторника, чтобы до 18 марта основная масса проголосовала.) Не хочется терять хоть и непрестижную, но все же работу.

Извините за малодушие раба Божьего.

**С уважением, В.С.СТЕПКО, Брест.**

## Выраслі тарыфы на некаторыя паслугі электрасувязі

19 сакавіка ў Беларусі на 20—30 працэнтаў выраслі тарыфы на паслугі ўнутрырэспубліканскай сувязі.

У прыватнасці, кошт хвіліны размовы па кватэрным тэлефоне з абанентам таго ж населенага пункту павялічыўся з 2,14 да 2,57 рубля, унутры адной вобласці — з 6 да 7,5 рубля, паміж абласцямі — з 12 да 15 рублёў. Тарыфы для прадпрыемстваў і арганізацый павысіліся адпаведна з 3,24 да 3,89, з 6,8 да 8,5 і з 13,6 да 17 рублёў.

Абаненцкая плата за карыстанне тэлефонам, пераведзеным на пагадзінную аплату, вырасла з 437 да 524 (для насельніцтва) і з 692 да 830 рублёў (для прадпрыемстваў і арганізацый), за карыстанне тэлефонам, не пераведзеным на пагадзінную аплату, — з 702 да 842 (для насельніцтва) і з 1.323 да 1.588 рублёў (для прадпрыемстваў і арганізацый).

Электронная магнітная картка на 120 хвілін для ўнутрыгарадскіх размоў па таксафоне падаражэла з 1.010 да 1.212 рублёў.

Кошт аднаго слова ў звычайнай тэлеграме павялічыўся з 8,4 да 10,9 (для насельніцтва) і з 12 да 15,6 (для прадпрыемстваў і арганізацый) рубля, у тэрміновай — адпаведна з 16,8 да 21,8 і з 24 да 31,2 рубля.

Акрамя таго, вырасла штомесячная абаненцкая плата за карыстанне радыёкропкай магутнасцю да 1 вата (са 116 да 139 рублёў для насельніцтва і са 167 да 200 рублёў для прадпрыемстваў і арганізацый).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

*Пр. Арсенія, Лазара.*
*К. Бенядыкта, Любаміра, Мікалая.*

САКАВІК
**21**
СЕРАДА

☉ Усход 6.10
Захад 18.25
Даўж. дня 12.15

☾ Апошн. квадра 16 сакавіка
Усход 6.01
Захад 14.17



Заява

## Пра эканамічную агрэсію імперскіх колаў Расіі

21 лютага 2001 г. расійская Дзярждума ратыфікавала пагадненне пра ўвядзенне ў Беларусі расійскага рубля, якое ў лістападзе 2000 г. падпісалі Лукашэнка і Пуцін. Расійская мафія так спяшаецца захапіць уласнасць Беларусі, што нават не захацела чакаць, пакуль гэты антыканстытуцыйны акт ратыфікуе лукашэнкаўская "палата". Дзеянні прэзідэнта Расіі Пуціна і Дзярждумы Расіі ёсць акт вонкавай агрэсіі.

Па-іншаму кваліфікуецца дзейнасць асобаў і органаў рэжыму з беларускага боку.

Лукашэнка, падпісаўшы пагадненне, парушыў артыкулы 136, 8, 1 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Гэтыя артыкулы ўсталёўваюць наступныя палажэнні:

— Арт. 136: **"...Нацыянальны банк... валодае выключным правам эмісіі грошай".**

— Арт. 8, абзац 3: **"Не дапускаецца заключэнне міжнародных дагавораў, якія супярэчаць Канстытуцыі".**

— Арт. 1, абзац 3: **"Рэспубліка Беларусь абараняе сваю незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, канстытуцыйны лад, забяспечвае законнасць і правапарадак".**

Згодна з падпісаным пагадненнем, Нацыянальны банк Беларусі пазбаўляецца права эмісіі, а дзяржава пазбаўляецца асноўнага чынніку суверэнітэту і нацыянальнай бяспекі — уласных грошай. Лукашэнка свядома пайшоў на простае парушэнне асноўнага Закону Рэспублікі Беларусь — Канстытуцыі. Паводле Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (раздзел 13, гл.32, арт. 356) характар здзейсненага парушэння ўтрымлівае ўсе нормы, якія кваліфікуюцца як дзяржаўная здрада.

"Статья 356. Измена государству"

**1.** *... оказание иностранному государству помощи в проведении враждебной деятельности против Республики Беларусь путем совершения преступлений против государства по заданию органов или представителей иностранного государства, умышленно совершенные гражданином Республики Беларусь* ***в ущерб внешней безопасности Республики Беларусь, ее суверенитету,*** *территориальной неприкосновенности,* ***национальной безопасности*** *и обороноспособности* ***(измена государству), —***

*наказывается лишением свободы на срок от семи до пятнадцати лет".*

*(Вытрымка з Кодэкса прыведзена па-расійску з-за адсутнасці беларускамоўнага выдання.)*

Да злачынства рыхтуюцца далучыцца і дэпутаты незаконнай "палаты". Яны збіраюцца на веснавой сесіі прагаласаваць за гэтае антыканстытуцыйнае пагадненне. Ніякім "канстытуцыйным актам" (на што спадзяюцца Малафееў, Машэрава ды ім падобныя) немагчыма будзе прыкрыць злачынства. Згаданыя артыкулы Канстытуцыі могуць быць зменены толькі шляхам рэферэндуму (нават паводле Канстытуцыі рэдакцыі 1996 г., арт. 140).

Злачынства, учыненае Лукашэнкам і ягоным рэжымам, цягне за сабой велізарныя страты і разбурэнне. На працягу сямі гадоў рэжым кансерваваў савецкія метады вядзення гаспадаркі, душыў ініцыятыву беларусаў, беларускі бізнес, не даваў разгарнуцца рэформам. Цяпер, калі расійская агентура завалодала ключавымі пасадамі ў структурах улады і ў эканоміцы Беларусі, яна адкрыта вядзе акупацыйную палітыку ў інтарэсах расійскіх імперскіх колаў, дапамагае расійскім алігархам і мафіёзным структурам прыхапіць лепшыя беларускія прадпрыемствы і маёмасць. Праз эканамічную агрэсію — увядзенне расійскага рубля ў Беларусь — Расія плануе завяршыць акупацыю Беларусі.

Мы звяртаем увагу грамадзян Беларусі на незаконныя і злачынныя дзеянні А.Лукашэнкі і ягонага прамаскоўскага рэжыму. Лукашэнка з 20 ліпеня 1999 г. утрымлівае ўладу незаконна, сілавымі метадамі. Гэта з яго дапамогай расійская агентура захапіла ключавыя пасады ў выканаўчых структурах улады, прамысловасці і праводзіць палітыку на знішчэнне беларускай дзяржавы, на захоп беларускай уласнасці, на асіміляцыю беларусаў, на выцясненне беларусаў з роднай зямлі.

Мы заяўляем, што змова пра стварэнне так званай саюзнай дзяржавы і яе рэалізацыя з боку Расіі ёсць агрэсія супраць Беларусі, а з боку А.Лукашэнкі і ягонага рэжыму — ёсць дзяржаўная здрада.

Мы звяртаемся да грамадзян Беларусі з заклікам згуртавацца перад пагрозай расійскай агрэсіі.

Мы заклікаем беларусаў, дзе б яны ні працавалі ці служылі, у сваіх дзеяннях абапірацца толькі на Канстытуцыю і законнасць. Указы, дэкрэты, распараджэнні, загады ды іншыя падзаконныя акты, якія супярэчаць Канстытуцыі і заканадаўству, не падлягаюць выкананню.

**Сойм Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі — БНФ.**

Фото IREX/ProMedia.

Открытое письмо

*Владимиру Гончарику*
*Павлу Козловскому*
*Михаилу Чигирю*

## Готов к совместному сотрудничеству

15 марта в газете "Народная воля" опубликовано заявление "Нас не запугать!", подписанное Владимиром Гончариком, Павлом Козловским и Михаилом Чигирем.

Целиком и полностью согласен с данным заявлением. Самое главное в нем — начало консолидации реальной оппозиции власти. Убежден, что центром консолидации оппозиции должен стать этот тройственный союз будущих кандидатов в президенты Республики Беларусь. Лидеры предпринимателей республики будут рекомендовать всем своим организационным структурам и предпринимателям оказывать разностороннюю поддержку Владимиру Гончарику, Павлу Козловскому и Михаилу Чигирю в дальнейшем укреплении их союза и проведении президентской кампании. Сам лично как лицо, имеющее намерение выдвинуть свою кандидатуру на президентских выборах 2001 года, готов к совместному сотрудничеству с ними во имя достижения общей цели.

**С уважением — Валерий ЛЕВОНЕВСКИЙ.**

## Так что нам разрешили?

7 марта 2001 года мы, 100 белорусских граждан, в соответствии со статьей 4 Закона "О собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрациях и пикетировании" подали в Минский горисполком заявление-уведомление о намерении провести в воскресенье 25 марта демонстрацию, посвященную 83-й годовщине образования Белорусской Народной Республики.

Шествие запланировано в 14.00 от станции метро "Фрунзенская" по улицам Романовская слобода, Городской вал, проспект Скорины, улица Ленина, площадь Свободы.

16 марта мы получили извещение из Мингорисполкома №9-1721 в котором сообщается: *"вы маеце права правесці 25 сакавіка 2001 года з 15.00 до 18.00 у парку Дружбы народаў (раён пл.Бангалор) без стварэння перашкод пешаходнаму і транспартнаму руху і агульнай колькасцю ўдзельнікаў да 7000 чалавек".*

Сколько мы ни читали ответ столичных властей, так и не поняли, что же нам разрешили?

Маршрут демонстрации вроде бы не изменили. Ведь изменить время и место политического мероприятия может лишь руководитель горисполкома, а данный документ подписан его заместителем М.Петрушиным.

Если решили "санкционировать" шествие по площади Бангалор — так получается, что несколько тысяч человек должны три часа ходить на площади по кругу?

Этак ведь и голова закружится: представляете, сколько кругов придется нарезать за три часа?

Тем не менее, как следует из извещения горисполкома, место — метро "Фрунзенская" и время — 14.00 не изменены.

**Валерий ЩУКИН, Александр СИЛИЧ, заявители демонстрации 25 марта.**

Акция

## Хотите вернуть вклады, приходите на площадь Бангалор...

16 марта по радио выступила "главная женщина страны" — председатель "Беларусбанка", член правления Нацбанка Н.Ермакова. О чем она говорила? О многом, в том числе и о том, что виноваты мы, стрелочники, доверившие свои вклады банкам СССР, покупавшие всевозможные облигации и ценные бумаги, и т.д. и т.п., а в последние годы отдавшие свои сбережения банку "БелБалтия", работающему "под носом" и надзором Нацбанка и всех правоохранительных органов РБ с июня 1994 года.

**Ни комиссия Госконтроля, ни Хозяйственный суд г.Минска,** который состоялся 2 марта, ни **совместное постановление Совета министров и Нацбанка №295/5,** которые разработали новое банковское "поле чудес" (согласно которому кто-то кому-то дает кредит, кто-то за этот кредит приобретает ценные бумаги, затем с этими ценными бумагами участвует в играх на фондовой бирже, нам же по мере выигрыша каждый год выплачивают по 500 долларов США без процентов, и так в течение четырех лет), **никто из них не назвал виновных и не сказал, где же наши деньги.**

Нас, вкладчиков, упрекают в том, что мы неправильно читаем статью Конституции (раздел II, ст.44), где четко написано, что государство поощряет и гарантирует вклады населения во всех банках Республики Беларусь.

Считают, что и многочисленные статьи Гражданского кодекса и Указа президента №87 от 23.02.2000 года, где четко оговорены наши права и то, кто несет ответственность за подобные дела в банковской деятельности, мы читаем не с той стороны.

Для того чтобы посоветоваться, как нам, вкладчикам, действовать дальше, горисполком разрешил нам собраться 31 марта с.г. с 10.00 до 14.00 на площади Бангалор.

Мы приглашаем на это собрание представителей правительства, Госконтроля, Нацбанка, "свободных" и "несвободных" профсоюзов, всех заинтересованных людей, которые могут внести свою лепту в решение данного вопроса, чтобы как можно скорее нам вернули наши вклады, которые успешно работают в многочисленных организациях на просторах не только бывшего СССР, но и за его пределами...

**Члены инициативной группы, вкладчики: Александр АВТУХ, Евгений НОВИЦКИЙ, Иосиф ИВАНИЦКИЙ.**

Тема дня

## Выбор есть!

**Александр БУХВОСТОВ, председатель профсоюза автосельхозмашиностроения**

Беларусь переживает вторую волну беспрецедентного популизма в исполнении Лукашенко и его команды. Можно сказать, второй акт. Первый был в 1994 году. Тогда сформировалось широко распространенное заблуждение о бескомпромиссном борце против коррупции, за справедливость и т.п. Народу подсунули то, что он хотел видеть: сказали то, что он хотел слышать. Народ поверил и сдался.

И все же за семь лет народ стал кое-что понимать, а иллюзии рассеиваться. Правда, массы в какой-то период прозрения очень трудно и болезненно отторгают своих кумиров, выискивают различные аргументы для их оправдания. Но наступает момент падения кумира, после которого уже он не подлежит реанимации в народном сознании. Этот момент истины наступает в настоящем году. Что делать в этом случае нашему магу, чтобы не сойти со сцены? Создать новую иллюзию. Она, эта новая иллюзия, уже готова в общих планах. Осталось методичными жестами, пассами отвлечь внимание народа от реальной жизни, рассеять его и овладеть им опять.

Как в прошлый раз, сцена та же — информационное пространство Республики Беларусь. Средства — государственные СМИ: ТВ, радио, газеты, журналы. Сейчас уже используется и художественная литература.

Господин Зимовский, убеждая граждан в том, что путь Беларуси определен, заявил нечто вроде того, что законы общественного и экономического развития в Беларуси несколько иные, чем на Западе, да и на Востоке, в той же России. А как же мы сможем создать союзное государство? Подумал бы, что ли, прежде чем говорить. Но белорусскому ТВ во главе с В.Никольским (Чикиным) не до размышлений. Главное — выдать очередную сфабрикованную ложь, веря в то, что чем чудовищней она, тем скорее в нее поверят. Так что слушай, народ, и верь! И действительно, могут поверить! Многие не станут задумываться, сопоставлять Россию и Беларусь. Ведь в России, при ее размерах, проблемы ряда регионов по энергообеспечению сопоставимы с проблемами белорусских районов и деревень, где люди практически вымирают из-за уровня и качества жизни. Но кто будет над этим задумываться?

Как, к примеру, оценить то, что существует внебюджетный фонд президента, который никем не контролируется? Захочу — себе возьму, захочу — кому-нибудь подарю.

Ну, а насчет своего "белорусско-лукашенковского" пути, то это только начало, так сказать, цветочки. В Китае был "большой скачок", от него отказались, ибо народ стал вымирать от голода. Или идеи "чучхе" в Северной Корее, где народ в прямом смысле жует траву.

Белорусский собственный путь, похоже, из разряда названных. Но кто особенно будет над этим размышлять? Именно на это и рассчитывают творцы новой иллюзии. Главное — не дать объективной информации о ситуации в Беларуси дойти до людей, которым предстоит делать выбор. Не дать им задуматься.

Любая информация на ТВ подчинена одному — вводить людей в заблуждение. Возьмем отчеты о прошедшем заседании Совета министров, который вел Лукашенко. Особых разносов не было, ибо это могло навести народ на мысль, что не все в порядке в "белорусском королевстве". Поэтому Лукашенко, как и следовало "батьке", по-отцовски спрашивал с правительства за работу и задавал удивительно наивные вопросы, вроде "почему цены на жилье высокие, и люди не могут его покупать?".

Может быть, Лукашенко это и не ясно, но рабочему, инженеру или учителю, получающему зарплату от 50 до 90 долларов США в месяц, понятно. Ибо для того, чтобы купить один квадратный метр жилья, ему надо работать от 4 до 6 месяцев, при этом живя без еды, питья и одежды. Но самое печальное — не понимает нынешняя власть, что при ней такая ситуация никогда не изменится.

Понятно, что Лукашенко хочет во что бы то ни стало выполнить требование профсоюзов по повышению зарплаты. Ведь безрезультативность антипрофсоюзной кампании, которая развернута в Беларуси, говорит о том, что власть не может заставить замолчать профсоюзы. А если не может заставить замолчать, значит, один выход — выполнить их требования. Но возможно ли сейчас, при таком состоянии экономики и промышленности, к августу текущего года уровень зарплаты поднять так, чтобы средняя зарплата в народном хозяйстве стала равной 100 долларам США?!

В нашей отрасли по ряду ведущих предприятий зарплата должна быть, на мой взгляд, 170—180 долларов США. Сейчас такие крупные предприятия, как тракторный, моторный и многие другие, испытывают затруднения с выплатой зарплаты на уровне 80—100 долларов США. Как будет выплачиваться зарплата в 170 долларов США? Сколько надо продать продукции, чтобы поднять выплаты? Разрушенная промышленность из-за отсутствия инвестиций и усиленного "проедания" оборотных и амортизационных средств будет добита окончательно и полностью. Если в 1999 году оборотные средства сократились на 50%, то за 2000 год от них осталась одна треть.

На том же заседании Совмина Лукашенко говорил об экспорте как одной из основных стратегических задач. Безусловно, экспорт — одно из главных факторов выживания Беларуси. Но созданы ли условия для работы предприятий, реализующих экспортный потенциал нашей промышленности? Одним из них является наличие нормальной валюты. Ее нет. Разрушает экономику предприятий, работающих на экспорт, и несоответствие темпов роста инфляции и девальвации рубля, применение таможенных пошлин и т.д.

Рост валовых показателей совершенно не радует экономистов, в том числе работающих в государственной системе. Как заявил один из них: "хорошие валовые показатели работы прямо пропорциональны тем долгам, которые их обеспечили".

Мнение экономистов, работающих в промышленности, единодушно в том, что сейчас она вышла на грань существования отечественного производства.

До этого ли сейчас нынешней власти? Нет, похоже. Главное — сохранить себя. Поэтому и тратятся такие колоссальные ресурсы на создание новой иллюзии, на то чтобы опять ввести народ в заблуждение. Не так много в мире государств, где ложь, клевета, фальсификация стали стержнем и основой государственной политики. Вряд ли вы найдете в Европе еще государство, где хамство стало нормой и стилем государственного управления и публичной политики.

Больше всех достается оппозиции, т.е. части политиков, которая активно и публично выступает против нынешнего режима. Но эта часть — только вершина оппозиционного айсберга. Главная и основная оппозиция режиму — это та большая часть белорусского народа, которой надоело жить в стране без будущего и которая хочет видеть родную Беларусь свободной от совхозного хамства, демократическим, правовым и социальным государством.

Что для этого надо сделать? Не дать магу и его команде опять ввести в заблуждение народ, не допустить фальсификацию на президентских выборах и не позволить сработать "силовой составляющей" выборов, на которую, в крайнем случае, рассчитывает Лукашенко, чтобы удержать власть. Ведь свободных и справедливых выборов Лукашенко не выиграет.

Следует создать всенародное движение за перемены, за свободные и справедливые выборы и установить общенародную систему контроля. А тем, кто из наших сограждан еще что-то не понимает, хочу сказать: снимите, дорогие мои, очки и сразу увидите — "король-то голый", а на Беларуси столько прекрасных, талантливых и способных к государственному делу людей! Выбор есть!

